**Рыгор Барадулін**

# Паэма
# БАЛАДА БРЭСЦКАЙ КРЭПАСЦІ

Тады абложаны рэйхстаг
Нам бачыўся з блакады.
*Анатоль Вялюгін*

---

А нам поверженный рейхстаг
Был виден из блокады.
*Анатоль Велюгин*

Як памяць,
лета прастрочыць конік
чаргой зялёнаю навылет,
А памяць тая
страшней ад старых кінахронік —
без жалю вяртае
сорак першы год.

Зямля аглушана не снарадамі —
стогнамі.
І крэпасці воблік абвогнены

---

Как память,
навылет прострочит лето
кузнечик очередью —
и вот
безжалостней, чем кинохроники лента,
память вернет
сорок первый год.

От стонов оглохли земля и небо,
и облик твой огненный,
крепость,

люструецца ў поўнай,
як вока, варонцы…
Памяць,
усё наноў
перапакутуй зноў
за байцоў-абаронцаў!

---

грозой отразится
в глазницах воронок…
Память,
веди за собой,
дай вновь пережить и подвиг,
и боль
героев обороны!

...З самім сабой
вядзі паядынак.
Да сэнсу трэба сэрцам дабрацца.
Прамая наводка —
і рухнуў будынак,
і стогне
каменны могільнік брацкі.

...Ідуць у атаку
мундзіры зялёныя.
Шпіталь уперадзе —

---

...С самим собой
выходи на бой.
До сути сердцем надо добраться.
Бьет батарея
наводкой прямой —
и стонет
под щебнем могила братская.

...Идут в атаку
мундиры зеленые.
Госпиталь впереди —

жывой заслонаю.
Крычаць параненыя:
— Страляйце,
родныя,
нас не шкадуйце,
браты, ніводнага...
Асколкі і кулі —
кінжальная навісь.
Думка адна:
расквітацца з катамі!

---

живым заслоном.
Кричат раненые
как мольбу,
как заклятье:
— Нас не жалейте,
стреляйте,
братья!

Осколки и пули —
завеса кинжальная.
А мысль одна —
продержаться нужно!

Ёсць трохі патронаў,
і ёсць нянавісць,
цэгла, і зубы,
і «ўра» раскацістае.

Каб цемра на момант
фарты акрыла,
здаецца б, зямлю на руках
панёс,
ды
у небе —

---

Есть горстка патронов,
и есть безжалостность,
кирпич, и зубы,
и «ура» натужное.
Темнота хоть на миг бы
форты прикрыла,-
кажется,
землю на руках бы унес,
да
в небе —

толькі са свастыкай крылы,
стракочуць адно
кулямётныя гнёзды.

А трэба ж спрытным быць,
і занадта,
імгненне кожнае дарага,—
варожую ў лёце
перахапіць гранату
і кінуць,

---

только со свастикой крылья,
стрекочут одни
пулеметные гнезда.

А тут ко всему
еще ловким быть надо,
мгновение каждое дорого,—
вражескую
перехватить на лету гранату
и бросить,

пакуль не ўзарвалася,
ў ворага!

Свой баль крыважэрны
надоўга правіць
табе тут,
таму не спяшайся,
бязносая.
Загінуць —
не дужа хітрая справа.

---

пока не взорвалась,
в ворога!

А смерть
уже рядом,
за ближним пределом,
свой пир кровожадный
справляет, как может.
Погибнуть —
не слишком хитрое дело.

А як даражэй
аддаць жыццё сваё?!

...Сонца, што плямка,—
ці рана, ці позна?..
Ракеты падвешаны на парашутах
А трэба
«хадзіць» у разведку поўзма,
здабыць патроны —
забітых абшукваць.

---

А как бы жизнь
отдать подороже?!

...Солнце — в чаду:
ночь ли, рассвет ли?
Ракеты взлетают круглые сутки.
А надо ползти по-пластунски
в разведку,
с убитых снимать
патронные сумки.

«Няхай дазнаецца
маці Масква,
што нашы рады парадзелі —
з гасцей няпрошаных
пасыплецца луска!» —
нервуецца
лейтэнант маладзенькі…

Падмога прыйдзе —
грыміць навокал.
Адна ж такая крэпасць

---

«Пускай узнает
мать Москва,
пускай о нас
узнает Родина:
недолго врагу могилу искать!»
волнуется
лейтенант молоденький…

Ряды поредели —
придет подмога.
Крепость

не застанецца!
Хай гімнасцёрка
крывёй намокла,
хай перамогай
не выхваляюцца немцы.

З рук у рукі
царква пераходзіць,
адсюль
агонь карэкціруе вораг.

---

одну не оставят, ясно!
Пусть гимнастерка
кровью намокла,
рано фашисты
победу празднуют.

Из рук в руки
переходит церковь —
лучшая в крепости
точка обзора.

Была царквой, потым клубам —
годзе!
Анёлы смерці
пяюць на хорах.
Агню языкт
у клубкі
звіліся.
Дзе песня,
што лірык спяваў калісьці?

---

Была ты храмом,
и клубной сценой.
Ангелы смерти
поют на хорах.
Где песня,
что пел когда-то лирник?
Осталась в днях тех,
далеких,
мирных.

«Стаіць цэркаўка
з пірагоў збіта,
блінамі накрыта,
абаранкам замкнёна
і дудка ўтаркнёна.
Узяў абаранчак — пасіліўся,
узяў я дудачку — павесяліўся…»

Частуе не пірагамі —
артылерыйскімі перунамі.
Як пекла прынада,

---

«Стоит церквушка
из калачей сбита,
блинами накрыта,
заперта пирожком
и пастушьим рожком.
Пирожок я взял — подкрепился,
а рожок взял — повеселился…»

Потчует не яствами —
пирогами фугасными.
Как музыка ада,

вяселіць да глухаты
кананада...
Святым апосталам
не да раю —
кроква апошняя
дагарае.

Прашыта кулямі ўсё,
а малая
люляе ляльку —
дачка Кіжаватава...

---

до глухоты
веселит канонада...
Святым апостолам
не до рая:
стропила-остовы
догорают.

Под пулями
дочь Кижеватова
на куклу свою
примеряет наряды...

З боепрыпасамі
склад палае.
Уцягвае спіну
жудасць хіжаватая.

Снарады — для бою!
Хутчэй выратоўваць!
А іх не возьмеш
рукамі голымі.
Смыляць гімнасцёркі.

---

Склад с боеприпасами
в пламени адовом,
еще мгновенье —
взлетят снаряды…

Снаряды — спасать!
Снаряды — для боя!
А как их возьмешь
руками голыми?

Дах рухнуў раптоўна —
перахапіла
гвалтоўнае полымя.

---

Рухнула крыша над головою
всё поглотило
безумное полымя.

З вадой Мухавец,
з вадою канавы,
іх мятуць агнямётаў
белыя мётлы.
Без вады захлынаюцца,
без вады канаюць
дзеці,
          параненыя,
                              кулямёты.

---

Вода — в Мухавце,
с водою рвы,
их метут
огнеметов белые метлы.
Без воды задыхаются
в дыму и крови
дети,
          раненые,
                    пулемёты.

Глытае полымя,
аж пакрэктвае,
і дол перасмяглы,
і бляху.
Не жарты —
перад вачамі
з морамі, з рэкамі
геаграфічная карта.

Злавесны певень
не закукарэкае.

---

А пламя гложет
(остановить некому!)
и землю, и жесть,—
все дотла пережарит.
А перед глазами —
с морями,
реками
карта земных полушарий.

Петух зловещий
не закукарекает.

На хвалях зыбаецца
поўні грыўня.
Поруч — вада,
жывая,
канкрэтная,
на яе, падступную,
глядзець крыўдна.

Паднябенне,
як у распаленай печы,
пясок выплюнуць

---

Над Мухавцом луна.
Все до травинки видно.
Рядом вода,
живая,
конкретная,
на нее, недоступную,
глядеть обидно.

Нёбо,
как под в раскаленной печке.
Мокрый песок —

не хапае сліны.
Давай ва ўспаміны
нырца па-хлапечы.
Мокры пясок —
паратунак адзіны...

Нервы —
узведзеныя куркі.
Сунецца млявасці калымага.
З каземата
ход прарыць да ракі

---

спасенье одно.
А помнишь, как в детстве
на тихой речке
ныряли,
чтобы измерить дно?..

Нервы —
взведенные курки,
от жажды
на крайнем пределе каждый.
Подкопом добраться до близкой реки

у адчаі спрабуе
СМАГА.

Мухавец
ад снарадаў і куль кіпіць.
Прамяні
цярпення путы раскулі:
малыя, што кнігаўкі,
просяць:
— Піць!..
— Піць-піць! —

---

в отчаянье пробует
ЖАЖДА .

Мухавец
от снарядов и пуль кипит.
Хотя бы ребятишки
забылись, уснули...
А они, как чибисы,
просят:
— Пить!..
— Пить-пить! —

рацыя параненая быццам
                                        кпіць...
— Піць-піць! —
ціўкаюць кулі.

Ты, казка,
голасу не падавала.
Сягоння нашто
завітала ў падвалы?
З туману сукенка
самавышыванка...

---

это рация раненая хрипит...
— Пить-пить! —
это тенькают пули.

Ты, сказка,
голоса не подавала.
А нынче зачем
заглянула в подвалы?
Голосок тонкий
подает спозаранку...

— Сястрычка Алёнка,—
Просіць Іванка, —
зямля, як ток...
З вадой капыток...
Я зраблю глыток...
— Не рабі, браток!..
А смерць
пазірае з-за ўсіх вуглоў.

Мухаўца зачарэпні,
з грузілам біклага!

---

— Сестричка Аленка,—
молит Иванка,—
с водой копытце,
бога ради,
позволь напиться...
— Не пей, братец!..
А смерть
глядит изо всех углов.

За глоток Мухавца
чего не отдашь ты!

Чаму ж такі твой
небагаты ўлоў,
СМАГА?

Ці рыбак не рупны,
ці не той патапец?

Сплаўляе трупы
крывавы рум —
Мухавец...

---

С грузилом фляга,
да мал твой улов,
ЖАЖДА !

Что ж улов некрупный,
иль неловок ловец?

Сплавляет трупы
кровавый поток —
Мухавец...

Чаго ўзгарэліся летам
каліны?
Як выбух,
Буг уздыхае глуха.
Вылятаюць не птушкі —
снарады і мімы
з рукавоў бабровых Буга.

І сам сабе
не дасць ён рады,

---

С чего разгорелись средь лета
калины?
Словно взрыв,
Буг вздыхает глухо.
Вылетают не птицы —
снаряды и мины
из рукавов бобровых Буга.

И сам себе
сегодня не рад он,

яму са смерцю
не звесці рахубы.
Рукавом не ўтрэ ён
салдатам раны,
паскіпаныя,
перасмяглыя губы.

...Ад скварy бровы
паліналі.

---

смерть свои счеты
сводит грубо.
Рукавом не утрет он
солдатам раны,
запекшиеся,
пересохшие губы.

...От жарищи брови
полиняли.

Дзе твае броды,
вада - паланянка ?!.

---

Где ж твои броды,
вода-полонянка?!.

Ні дня, ні гадзіны
няма спагадзіны,
але спагады
ніхто не чакае.
«Агонь!» —
на ультыматум адказ адзіны.
Бярэ за горла
задуха цяжкая.

Адна гадзіна
даецца на роздум.

---

Ни часа пощады
от жажды и чада,
удушье цепко
держит за горло.
На все ультиматумы
отвечают
командой «Огонь!» —
непреклонно и гордо.

Час — на раздумье:
и много, и мало.

Дакладнасць нямецкая
свету вядома.
Дымяцца чадна
разоры-барозны.
Сястрой міласэрнасці
ступае стома.

Прастрочаны сцяг
б'е крылом падвяла.
Жанчыны й малыя —
нямой талакою.

---

Миру известна
немецкая точность.
Только усталость
бредет по подвалам
сестрой милосердной
с крестом на платочке.

Простреленный флаг
бьет крылом алым.
Дети и женщины —
онемевшей толпой.

Гадзіна,
каб вывесці іх з падвалаў...

Радзіма,
даруй
за выйсце такое!..

Усе вароты
агнём зачынены.
Акроплены сцены
крывавай расою.

---

Час —
чтобы вывести их из подвалов...

Отчизна,
прости им
исход такой!..

Входы и выходы
огнем перекрещены.
Кровавой росой
окроплены стены.

Каб выратаваць дзяцей,
жанчыны
павінны
ісці ў палон прымусовы...

Як на хаўтуры,
брыла калона,
смылела калона
ірванай ранай.
А вочы,
як тыя штыкі, калолі.

---

Чтобы спасти детей своих,
женщины
вынуждены идти
тропою плена...

Рваной раной
сочилась колонна,
брела, как на похороны,
как на плаху.
Глаза
острее штыков кололи.

А шлях снарадамі
пераараны.

Без белага сцяга…
Гадзінаю злою
прасціны, сукні
бінтамі сталі,—
касынка выцвілая
над галавою
знікае
ластаўкаю расстання…

---

А путь
снарядами перепахан.

Без белого флага…
Годиной лихою
простыни, платья
бинтами стали,—
косынка выцветшая
над головою
трепещет подранком,
отставшим от стаи…

Услед зацята
глядзелі салдаты,
пагляды —
тугія набоі гневу:
ці рукі ўзняты?..
ці крыжам распяты?
Праклёны з вуснаў —
зямлі і небу.

Радасць бою
дзяліць было з кім.

---

А вслед солдаты
бросали взгляды,
не взгляды —
тугие заряды гнева.
Хоть губы сжаты,
сквозь боя раскаты
проклятья слышат
земля и небо.

Дорога в бесчестье
узкой полоской.

Не падзеліш
з ворагам
ганьбы палонных калон.
Цалуе дзяцей,
з моста кідаецца
апрытомнелы
капітан Шаблоўскі:
палані,
вады скрывянелы палон!..

---

Враг не услышит
мольбы
полоненных колонн!
Целует детей,
бросается с моста
в бессмертье
капитан Шабловский:
полони,
воды кровавой полон!..

Маўчаць казематамі,
зубы сцяць.
Неба гарачае
бачыць у проламе.

Як полымя,
б'ецца над крэпасцю сцяг;
як сцяг,
над крэпасцю б'ецца полымя...

Сюды б пяшчоту
зеленаватых ільдзін:

---

Зубы стиснув,
молчат в фортах.
Горячее небо
висит над валами.

Как пламя,
над крепостью бьется флаг;
как флаг,
над крепостью бьется пламя...

Сюда бы прохладу
полярных льдин!

цягліцы,
як перагрэтыя поршні!
Загад дыктуецца:
нумар адзін —
першы загад
і апошні.

У эфіры бравурных маршаў
жалезны клін.
Нязломная вера —
верны дарадца.
Змест загаду кароткі,

---

Но каземат раскаленный —
не ледник!
Приказ диктуется:
номер один —
первый приказ
и последний.

В эфире маршей бравурных
железный клин.
Теснее, теснее
снаряды ложатся.
Краток приказ,

вывад адзін —
ТРЫМАЦЦА!

Лістоўкі з пропускам
для здраднікаў і ўцекачоў
(пропуск
у палон і знявагу).

Абаронцаў гуртуе
капітан Зубачоў:
цытадэль падуладная

---

вывод один —
ДЕРЖАТЬСЯ!

Листовки с пропуском
для предателей и беглецов
(пропуск — в плен
для тех, кто забыл присягу).

Сплотил защитников
капитан Зубачев:
крепость верна

толькі
            чырвонаму сцягу!
Крывёй і жыццём
кожны
уносіць пай.
Абяцанкі ворага
слухаць ніхто не хоча.
Рукі ўцалелі —
стужкі кулямётныя набівай!

---

только
            красному флагу!
Кровью и жизнью
каждый
вносит свой пай.
Посулы врага
слушать никто не хочет.
Руки уцелели —
ленты пулеметные набивай!

Забойцаў сачы,
пакуль не патухлі вочы!
Няхай люцее
агонь расхрыстаны,
хай каменяломня жудасная
апусціць цяжкое века…

Крэпасць не здасца,
крэпасць выстаіць
да патрона апошняга,
да апошняга чалавека!

---

Следи за врагом,
пока не погасли очи!
Пусть свирепеет
огонь неистовый,
пусть каменоломня ужасная
опустит тяжелое веко…

Крепость не сдастся,
крепость выстоит
до патрона последнего,
до последнего человека!

Сумленне не прыйдзе
да здрадлівых згод,
лінія веры —
праменна прамая.

Хвіліна зацішша...
Партыйны сход —
у партыю абаронцаў прымаюць...

— Абакумава...
— Медсястра.

---

Совесть не станет
на путь измены,
линия веры —
как луч, прямая.

Затишье...
Но нет и не будет смены...
...Защитников в партию принимают...

— Абакумова...
— Медсестра...

— Церахаў...
— Камандзір роты.
За! —
кулямёт галасуе.
За! —
галасуе «ўра!»...
— Улктымбаеў...
— Прыняць пасмяротна...

Сцяг чырвоны
пад кулямі на сцены ўзбег.

---

— Терехов...
— Командир роты...
За! — автоматная очередь
За! — голосует «ура!»...
— У лктымбаев...
— Посмертно...
— За-за-за! —
захлебываются пулеметы.

Флаг под пулями взвился.
Сквозь времени бег

У гранітную памяць вякоў
уесца
крык, што гранатам
кідае ўзбек:
— Мая — камуніст,
мая — ні з месца!..

Хай плавіцца
дол камяністы,
нісквар, ні знямога не дойме,—
у шарэнгах крутых

---

врежется
в память гранитную Бреста
крик, что гранатой
бросает узбек:
— Моя — коммунист,
моя — ни с места!..

Пусть плавится
дол каменистый,
пусть пересыхают поймы,—
в шеренгах крутых

камуністы
шчыльней за патроны
ў абойме!

Гартуюць нязломных
любоў і злосць.
Няхай асцярога
маўкліва сапе,
няма сарамяжлівых —
саманазванцы ёсць:
у атаку ісці
называюць сябе!

---

коммунисты
тесней, чем патроны в обойме!

Сердца обжигает
святая месть.
Пускай осторожность
косит глазами;
Трусов нет —
добровольцев — не счесть:
в атаку идти
вызываются сами!

Нязломнасць,
табе не дадзена
грэць лысіну, як пень, сваю
і думку салодкую песціць,
як той сарамяжлівы скромнік,
пра персанальную пенсію
і пра персанальны помнік.
У скромніка прынцып:
усё пад сябе гарні;
з тым, хто інтрыжкі прадзе,
ён пойдзе ў супрадзь.

---

Стойкость,
тебе не дано
мыслишку сладкую пестовать,
как скромник
с воротничком накрахмаленным,
о персональной пенсии
и о памятнике персональном.
У скромника принцип
ясный вполне:
своя рубашка
и шкура дороже.

Ён рукі пагрэць на Вечным агні
пры выпадку не супраць...

У абаронцаў
слова цвёрдае,
палец прырос да курка,
пагляд прыкіпеў да мушкі,—
потым будуць
пасмяротныя ордэнскія,
зараз трэба —
кулямётныя стужкі!

---

Он руки погреть на Вечном огне,
случись, не упустит тоже...

У защитников крепости
слово твердое,
тут словом и делом
вносится лепта,—
будут потом
посмертные орденские —
сейчас нужны
пулеметные ленты!

Ні перад кім
не будзеш перадкаваць,
слацца абвялым лістам,
калі прыйшоў ты
зямлю парадкаваць,
калі ты стаў
Камуністам!

---

Ты будешь стоять
в огне и золе,
пред смертью самой
не заискивая,
если на этой горящей земле
ты стал
Коммунистом!

КРЭПАСЦЬ,
ты да чала прыклала
зоркі пяцікутную даланю:
падкуты грук
абцаса й прыклада
не ўпершыню
разбіваў тваю цішыню.

Пакуль
дыпламатычная думка
халодзіцца ў ветлівых холах,

---

КРЕПОСТЬ,
ты к челу приложила
звезды ладонь пятиконечную
(затишью короткому рада).
Тебе привыкать нечего
к стуку кованого сапога
и приклада.

Пока дипломаты холеные
прохлаждаются в залах и холлах,

пакуль узважваецца
стрэл халасты,—
вайна,
як бязлітасны археолаг,
разараўшы,
                    аголіць
вякоў пласты.

*

Паданне,
па звычцы даўняй

---

взвешивая и перелопачивая
пустых обязательств листы,—
война,
как безжалостный археолог,
распахав,
                    обнажит
вековые пласты.

*

Предание,
по обыкновению давнему

ты адказаць
ахвотна бярэшся,
адкуль свой пачатак
бярэ
Бярэсце.
Хаця,
раскапаўшы забыцця
чарговы капец,
ты будзеш вучона ілгаць,
як купец
гаціў бяростаю гаць.

---

тебе все известно на свете,
ты сразу берешься ответить,
привыкшее к лести,
откуда начало берет
Берестье.
И вот,
над легендой трясясь,
как скупец,
ты будешь учено лгать,
как богатый купец
мостил берестою гать.

Атрымліваецца
пераканаўча і проста:
Бярэсце —
                    бяроста...

І песня пра ростань
не за гарамі:
«Гарыць бяроста,
ды не згарае...
Гарыць бяроста,
ды не згарае...

---

Получается
убедительно и просто:
Берестье —
береста...

И песня о росстани
не за горами:
«Горит береста,
да не сгорает...
Горит береста,
да не сгорает...

Бярэсце
пярэсціць
чорная зграя...»

*
Геральдыка,
ты ў дэталях дакладных самых
пра герб берасцейскі
раскажаш дарэчы:
на полі чырвоным
замак
у абдоймах дзвюх рэчак...

---

Глохнет
Берестье
от вороньего грая...»

*
Геральдика,
ты в деталях дотошных самых
про герб берестейский
ведешь свои речи:
на красном поле
замок
в объятьях двух речек...

Табе і годзе!

Я ж мушу прызнацца:
не ведаю,
як у шаснаццатым,—
у нашым стагоддзі
чырвонага колеру
было даволі:
крывавае неба,
крывавае поле,

---

Все у тебя на примете!

Я ж должен признаться,
не знаю,
как там в шестнадцатом,—
а в нашем столетье
красного цвета
было поболе:
кровавое небо,
кровавое поле,

сцякалі рэчкі
крывёй і болем...

*

Гісторыя,
калі ты будзеш пераглядаць
кнігі мужнасці
строгі змест, —
не толькі па алфавіту,
відаць,
на першае месца

---

полнились реки
кровью и болью...

*

История,
когда ты будешь листать
книгу мужества,
уточняя порядок мест —
не только по алфавиту,
по праву
должен встать

стане
Брэст.
Доўга будзе яшчэ палаць,
абнюханы
полымя хіжымі пысамі,
Белы палац,
дзе быў Брэсцкі мір
падпісаны.

---

на первое место
Брест.
Долго будет еще гореть,
объятый
кровавым закатом,
Белый дворец,
где Брестский мир
был подписан когда-то.

Доўга будзе яшчэ
цытадэль грымець,
хоць пры закладцы клалі
і серабро і медзь.
«У дзень чэрвеня месяца
ад нараджэння Хрыстова 1850
шчаслівага царавання
Яго імператарскага...»
Смерць карону сасватае —
грашмі не адкупішся,
не адгародзішся кратамі!..

---

Долго будет еще
цитадель греметь,
хоть при основании клали
и серебро и медь.
«В день июня месяца
от Рождества Христова 1850
счастливого царствования
Его императорского...»
Смерть корону сосватает,—
деньгами не откупиться,
за крепостные стены не спрятаться!..

Муляры,
у чэрвеньскай цішыні
асцярожна абстуквайце
кожную галінку балючую.
Плавіла полымя камшіі,
у першабытным вар'яцтве
балюючы.
Асцярожна пастуквайце —
крэпасць узводзьце з іх
для наступнікаў.
КРЭПАСЦЬ ПАМЯЦІ,
КРЭПАСЦЬ ПАШАНЫ.

---

Каменщики,
июню хочется тишины,—
осторожно обтесывайте
каждую кирпичинку святую.
Плавило пламя камень стены,
в первобытном зверстве лютуя.

Осторожно обтесывайте обломки,
крепость из них возводя
для потомков.
КРЕПОСТЬ ПАМЯТИ,
КРЕПОСТЬ СЛАВЫ.

Можна выявіць,
на чым раствор замяшаны,
на якім растворы
сцены трымаліся:
сакрэты дойлідства
вядомы амаль усе.
А сцены рушыліся,
хоць і трывалыя аж занадта.
А як жа дазнацца,
з якога цеста
абаронцы Брэста?!

---

Это не сложно, право,
выяснить с абсолютной
точностью,
на каком растворе
стены ставлены:
секреты зодчества
не такая уж тайна.
А стены рушились,
хоть и немало терпели.
А как теперь нам
узнать, из какого теста
были защитники Бреста?!

На волі якой,
на якой крыві
мужнасць іхняя
замяшана?

У часе, памяць,
думак не крыві.

Па зямлі перапаленай
шаргануўся ліст,
як бляшаны...

---

На воле какой,
на какой крови
мужество их
замешено?

Ты, память,
и в мыслях не покриви.

Сохрани
все,
что было завещано...

Якая сіла трымала
трывала
абаронцу да жніўня
на вежы параненай брамы?
Калі
заваёўнікі пачалі
хадзіць па крэпасці прама,—
гранатнаю звязкай ягонай
падавілася песня
над крыжастай калонай!

---

Сила какая держала
бойца
до августа
на израненной башне ворот?
И когда
ходить по крепости в рост
начал фашистский сброд,—
связкой гранат, из башни брошенной,
подавилась песня
гостей непрошеных!

Для сябе
гранаты яму не хапіла,—
каб разбіцца насмерць,
толькі і засталося сілы.

А летам
сорак другога
захлынуўся фашыстаў сівушны
гогат
(адно са шчарбатых нішаў
птушаняты
есці прасілі),—

---

Для себя
гранаты ему не хватило,—
чтобы насмерть разбиться,
всего и осталось силы.

А летом
сорок второго
захлебнулся фашистов сивушный
гогот
(только в щербатых нишах
галчата
есть просили),—

калі з каземата
баец безыменны,
як прывід, паўстаў:
— Я выйшаў
пераканацца
у вашым бяссіллі!..
Апратка збуцвела,
над вачамі
русявая хмара навісла...

---

когда из казмата
боец безымянный,
как призрак, восстал:
— Я вышел
убедиться
в вашем бессилье!..
Когда-то зеленая,
гимнастерка на нем
истлела...

Адкуль яна,
вера,
адкуль яна,
непахіснасць?!.

---

Откуда она,
непреклонность,
откуда она,
вера?!.

Час,
КНІГУ МУЖНАСЦІ
разгарні,
яна не прыпудрана
выдумак пацярухай.
Памяць заходзіцца ў агні.
Слухай!

---

Время,
КНИГУ МУЖЕСТВА
разверни,
она не приукрашена
выдумкою досужей.
Память, колоколом звони.
Слушай!

Тут на досвітку 22 чэрвеня
абаронцы верныя
роднай зямлі
першы бой на сябе прынялі.
Там, дзе бой трымалі яны,
там і загінулі,
Радзімы сыны.
Не азірнуліся назад ні разу,
бо лічылі страх за абразу,
бо адступленне смерцю лічылі.

---

Тут на рассвете двадцать второго
верные бойцы обороны
первый приняли бой,
Родину заслонив собой.
Там, где стояли,
там и легли,
не посрамив родимой земли.
Стояли, не дрогнув, как эти стены,
ибо страх считали страшней измены,
ибо смертью считали они отступление.

І смерцю сваёй гераічнай
у бяссмерце ўвайшлі.

...У небе плывуць
аблачыны.
Успаміны
жывуць
на зямлі.

---

И смертью своей геройской
в бессмертье вошли.

...Облакам над крепостью
стыть в оцепенении.
Воспоминаниям
жить
в каждой пяди земли.

Радзіма
Часінаю векапомнаю
сыноў бласлаўляла
пяціпрамянёваю даланёй

«Краіна, устань нязломнаю,
ўстань на смяротны бой!..»

Пяціпалай зоркай
Планета пяцімацерыковая
заланілася
ад мышастага наслання.

---

Отчизна
в дни, что навеки запомнятся,
благословляла сынов
ладонью пятилучевой:

«Вставай, страна огромная,
Вставай на смертный бой!..»

Планета пятиматериковая
от мышастой напасти
заслонилась
звезды пятерней.

Хто цябе размяркоўвае,
цішыня?

Тлумачальны слоўнік,
якому ўсё вядома дазвання,
тлумачыць не дужа разгорнута:
«Бастыён...—
вайсковае ўмацаванне
пяцікутнай формы».

---

Где же ты, человечье счастье,
именуемое тишиной?

Толковый словарь,
набравшись терпенья,
толмачит,
и с ним не вступаем в спор мы:
«Бастион...— военное укрепление
пятиугольной формы».

А быў бастыён
да пакуты
прыкуты,
ды нязломнасць ягоную
засланялі штодня
зорка чырвоная,
пяцікутная,
абоймы пяціпатронная даланя!

---

А был бастион
переполнен страданьем и болью,
но волю его
не сломил огонь,
его заслоняли
звездочка красная
пятиугольная,
обоймы пятипатронная ладонь!

Пад стомай
твайго апаленага крыла,
крэпасць,
у сорак другім
калыханка гняздзечка звіла,
калыханка
пра чумака і вала,
у сорак другім,
на жыццё дарагім.

Зірнуў на свет смуглячок,
як грачок,

---

Под сенью
твоего обожженного крыла,
крепость,
в сорок втором
колыбельная гнездо свила,
колыбельная
про чумака и вола,
в сорок втором —
к состраданью глухом.

Свет увидел мальчонок,
что твой грачонок,

сын партызана
Петрусёк, Петрачок...
А ў Камароўцы —
зялёнай каморы
каморнікі-камары не ў гуморы.
Заціхнуць кулі,
ну хоць памры,—
звіняць злюцелыя камары.
Чарнее ад гора Белае возера.
Смерць мышастая
ходзіць дозіркам.

---

сын партизана, твой сын, Беларусь —
Петрусёк, Петрусь...
А в Комаровке —
зеленой кладовке
коварны без меры комары-землемеры.
Затихнут пули,
ну хоть помри,—
звенят треклятые комары.
Белое озеро почернело от горя.
Смерть мышастая
шастает дозором.

Зямля траншэямі перапярэшчана.
Прыціхла крэпасць,
не ціхне Брэстчына.

Сын на вайну —
прыкмета цяжкая...
І ты не пад столлю
калыску гушкала,
цябе, калыханка,
чакала палянка,
і партызанкай

---

Земля траншеями перекрещена.
Притихла крепость,
не затихает Брестчина.

Сыновья к войне,—
так толкуют люди.
И ты не под кровлей
качала люльку:
ждала полянка
с сосной корабельной
тебя, партизанку,

ішла ты
пад шаты
пушчы кашлатай.

Хусцінка, што хмарка.
Спявае Марфа:
— Павей, павей,
ветрык,

з зялёнага гаю...
Заслухаўся Петрык,
а зорка міргае.

---

с твоей колыбельной.
С ней и ушла ты
под кроны пущи косматой.

Косынка немарка.
Напевает Марфа:
— Повей, повей, ветрик,

с зеленого гая...
Заслушался Петрик,
а зорька мигает.

— Прыедзь, мой міленькі,
з далёкага краю...
Трывожна
                    маленства
зара
дагарае...

Цяжкой хмурынай
хусціна навісла:
татусь не прыйдзе,
загінуў
на Вісле...

---

— Вернись, мой любимый,
из дальнего края...
Тревожного
                    детства
заря
догорает...

Тяжелою тучей
косынка нависла:
татусь не приедет —
погиб он
на Висле...

Хлапчук узаўецца
іскрынкай скораю,
іскрынкай агню
тваёй няскоранасці,
крэпасць...

Ён будзе размову з зорамі
весці
як грамадзянін Сусвету.
А маці-салдатка
чакаць будзе весці —
грамадзянка зялёнага сельсавета.

---

Мальчонка взовьется
искоркой в небо,
рожденной огнем
твоей стойкости,
крепость...

Как гражданин Вселенной,
он будет с созвездьями
с глазу на глаз вести беседы.
А мать-солдатка
будет ждать известий,—
гражданка зеленого сельсовета.

Гадзіна настане
шчаслівая тая,
і зорны маёр дамоў завітае.
А з лесу выйдзе,
як партызанка,
да сынка - Клімука
калыханка:
— Адкуль ж а родам ты?
— Я з Камароўкі.
— Адкуль вяртаешся ?
— З зорнай вандроўкі.,.

---

Радость
сонное утро пробудит —
звездный майор на побывку прибудет.
И выйдет с полянки,
где сосна корабельная,
как партизанка,
к сынку-Климуку колыбельная:
— Откуда ты родом?
— Я из Комаровки.
— Путь держишь откуда?
— Из звездной командировки...

Зямных хапае ў міжзор'і
спраў.
А зоры —
б яры рукам і!
Здаецца, учора
патроны збіраў
у крэпасці з сябрукамі...

Навальніца гнала на выпас
грамы...

---

Земных хватает в космосе
дел.
А звезды —
можно руками потрогать.
Вчера еще, кажется, в гильзу
свистел —
в крепости
собирал патроны...

Гроза
полнеба брала взаймы.

Чырванагруды гіль
                                    ззяў
іскрынкай
на кажусе зімы...

Легенда —
кожная гільза...

Дзе ён,
пагранічны раён?
І ноччу і днём
у дазоры...

---

Красногрудый снегирь —
словно лента
на партизанской папахе
зимы...

Каждая гильза —
легенда...

Где он,
пограничный район?
И ночью и днем
в дозоре...

Сам-насам з зорамі
«Арыён»
сочыць, як нараджаюцца зоры…

А мара,
як матэматык, лабатая
шукае
СУЗОР'Е КІЖАВАТАВА,
СУЗОР'Е НАГАНАВА…
А вунь гарыць кумачова —
зарыва вайны нагадвае
СУЗОР'Е ЗУБАЧОВА…

---

Со звездами один на один
«Орион»
наблюдает, как зарождаются зори…

А мечта
из глубин мирозданья
выхватывает
СОЗВЕЗДИЕ КИЖЕВАТОВА,
СОЗВЕЗДИЕ НАГАНОВА…
А вон горит кумачово,—
в дни войны возвращая памятью
наново,
СОЗВЕЗДИЕ ЗУБАЧЕВА…

Зямля ў касмічным сяйве,
як веснавая нявеста.

Да вострава-крэпасці —
На Кубу плыве
з нафтаю
танкер «Героі Брэста».

---

Земля покажется с этих высот —
в весенней фате невестой.

На остров-крепость —
на Кубу плывет
с нефтью
танкер «Герои Бреста».

Разнатраўе трывожнае—
раннік,
капытнік...
Брэст-пагранічнік
любіць зялёны свет.
Засяроджана
кантрабанду шукае мытнік,
як нечаканую рыфму паэт...

Час,
як хірамант павуцінавалосы,

---

Ранник,
копытник —
разнотравье тревожное...
Брест-пограничник
любит зеленый цвет.
Сосредоточенно
ищет контрабанду таможенник,
словно нежданную рифму поэт...

Время,
седины ранние тронь.
Пусть воспоминанья

паваражы,
успамін дагані:
натужныя рэйкі,
як лініі лёсу,
ў Брэста-чыгуначніка на далані..
Ішлі імі
ў летні сонцазварот
саставы,
перагружаныя трывогай.
Паглядзі,

---

грохочут по рельсам:
в рельсах,
как в линиях жизни,
ладонь
железнодорожника-Бреста...
По ним
шли в летний солнцеворот
составы,
нагруженные тревогой.
Вглядись,

там, дзе значыцца выраю ўзлёт,
ці няма залому крывога?..

Хай вербы памыюць косы
у ціхай вадзе,
хай на хвалях зыбаецца
расянае поўні човен.
Хай у спакойны чэрвень
свой паравоз вядзе
з Брэста
сын Зубачова!..

---

там, где памяти поворот,
нет ли излома кривого?..

Пусть вербы распустят
ливни кос,
пусть на волнах качается
луны бочонок,
пусть в мирный июнь
ведет паровоз
из Бреста
сын Зубачева!..

Уяўленне,
ты на параўнанні багатае,
спрадвеку ў цябе запалу
хапала,—
і карта маёй Беларусі
табе нагадвае
дубовы ліст
ці кляновы ліст пяціпалы.

Вайна
маю памяць дагэтуль катуе,—

---

Воображенье,
ты на любое сравненье готово
отважиться,
у тебя испокон хватало
запала,—
и карта моей Беларуси
тебе вдруг покажется
то дубовым листом,
то кленовым листом пятипалым.

Война
до сих пор мне терзает память,—

мне карта нагадвае
полымя языкатае!

...У Хатыні
крываваы прысак не стыне.

...Травой забыцця ўвячэла,
не зарасце
вогнішча Калдычэва.

---

мне карта напоминает
языкастое пламя!

...В Хатыни
кровавый пепел не стынет.

...Травой забвения не зарастет,
не остывающее от гнева,
кострище жуткое Колдычева.

...Вёска ушацкая спаленая
Аралля
крывёй набухла.

...Паслухай —
стогне зямля.
...Грымяць
бастыёны над Бугам...

---

...Ушачи выжжены...
Аралля —
деревня лесная —
кровью набухла...

...Прислушайся —
стонет земля.
...Гремят бастионы над Бугом....

ВЕЧНЫ АГОНЬ,
спалі ты
ўсіх войнаў маеты і дарогі!
Гранітныя стынуць пліты —
знямелыя некралогі.

Слязіна,
твой прысмак салёны
я зноў пазнаю пакрыёма.
Імёны,
імёны,
імёны...

---

ВЕЧНЫЙ ОГОНЬ,
опали ты
всех войн мосты и дороги!
Гранитные стынут плиты —
безмолвные некрологи.

И горечь слезы
на губах у меня,
и сердцу за ребрами тесно.
Имена...
Имена...
Имена...

І роспачы крык:
                        «НЕВЯДОМЫ...»
Сляпыя закрэслілі кулі,
згубіліся спісы, магчыма...
Сыноў сваіх
знае матуля,
сваіх абаронцаў —
Айчына!

---

Отчаянья стон:
            «НЕИЗВЕСТНЫЙ...»»
Немые провалы зияют —
ни даты,
            ни званья,
                        ни чина...
Сынов своих матери знают,
солдат своих знает Отчизна!

Ты, крэпасць,
нязрушанай стромай —
адна —
не чакала замены.
Ты доўга была невядомай,
і подзвіг твой
быў безыменны...

Імёны сыноў святыя
стараліся з памяці сцерці
віры недаверу крутыя,
готыка дроту і смерці.

---

Ты, крепость, скалою отвесной
стояла
в огне преисподней.
Ты долго была неизвестной,
и был безымянным
твой подвиг...

Сынов имена святые
из памяти нашей стирали
валы недоверья крутые
и версты колючей спирали...

Лёг вал
перабітай падковай.
Табе яшчэ доўга,
крэпасць,
пілоткай маладзіковай
ваду Мухаўца чарэпаць.

Табе ўспамінаць начамі,
як нізкае неба гарэла.

...Цяжкія хмурыны маўчання.
...І зор кулявыя прастрэлы...

---

Лег вал
перебитой подковой.
Тебе еще долго,
крепость,
пилоткой молодиковой
Воду Мухавца перечерпывать.

Тебе вспоминать ночами,
как низкое небо горело.

...Тяжелые тучи молчанья.
...И звезд пулевые прострелы...

У бросневых маскхалатах
равы...
А ў нясцішаным гуле
трасіруе змоўкласць галактык
цяжкая зямная куля...

Ты, часе, зямлю засеяў —
жалезам,
стараўся вельмі.
Талопяцца ў сцены музеяў
гармат круглажэрлыя бельмы.

---

В прозелени маскхалатов
рвы...
А в немолчном гуле
пронзает безмолвье галактик
земная тяжелая пуля...

Ты, век, полпланеты засеял
железом,—
старался очень...
Таращатся в стены музея
орудий бельмастые очи.

Стаіць звугалелае дрэва,
як жудасная дамавіна:
гарэла, не дагарэла,
ці дагарэць павінна?,.

На картах сцяжковыя крокі...
Пусты пісталет камандзіра...
Спыніўся будзільнік бязвокі —
вайна разбудзіла ў чатыры...

---

Стоит не дерево — древо,
обугленное до жути:
горело, не догорело,
иль догорать еще будет?..

Карты — в пунктирах пристрелок...
Пустой пистолет командира...
Безглазый будильник, без стрелок —
война разбудила в четыре...

Замнога музей,
не тлумач ты,
нябыт не вяртай.

Хай з нябыту
Штыка адгранёная мачта
трымае ветразь блакіту…

---

Не надо, музей,
не толмачь ты…
Пускай, как парус,

как знамя,
штыка отграненная мачта
колышет небо над нами…

У скронях зямлі
мы трывожнымі жылкамі
стукаем.
Мы —сцены жывыя
крэпасці непадступнай.
Гэта акамянеў
наш гнеў,
гэта мы згарэлі ў агні,
мы —
скрываўленыя камяні,

---

В землю сойдя,
мы сигналы тревоги
выстукиваем,
мы — стены живые
крепости неприступной.
Это окаменел
наш гнев,
это мы сгорели в огне,
мы
оставили кровь на каждой стене,

мы хацелі для вас цішыні,
людзі...

Прыходзьце сюды
не з пустою біклагай
вады легендарнай напіцца —
на вернасць СЦЯГУ
даваць ПРЫСЯГУ,
нязломнасці нашай
вучыцца!

---

мы хотели, чтоб жили вы в
тишине,
люди...

Идите сюда
не с порожней флягой
воды легендарной напиться,—
на верность СТЯГУ
давать ПРИСЯГУ,
непреклонности нашей
учиться!

Барадулін Р.

Балада Брэсцкай крэпасці. Мн., «Маст, літ.», 1975.
112 с. з іл.

У сваёй паэме — «Балада Брэсцкай крэпасці» вядомы беларускі паэт Рыгор Барадулін піша пра неўміручы подзвіг савецкага народа, здзейснены пад кіраўніцтвам роднай Камуністычнай партыі.

Ярка і велічна паўстаюць на старонках кнігі вядомыя і невядомыя абаронцы цытадэлі славы, сама крэпасць-Герой, яе боль і слава.

Б 70403-048 / М 302(05)-75 211-74 Бел 2

---

На белорусском и русском языках

Рыгор Иванович Бородулин

БАЛЛАДА БРЕСТСКОЙ КРЕПОСТИ

Рэдактар *Ул. А. Паўлаў*. Мастак *А. К. Шэвераў*. Мастацкі рэдактар *М. Р. Казлоў,* Тэхнічны рэдактар *Т. М. Сокал*, Карэктар *Н. І. Лебедзева.*

АТ 04010. Здадзена ў набор 16/V 1974 г. Падп, да друку 19/1 1975 г. Тыраж 25 000 экз. Фармат 84X100 1/32 - Папера афс. № 1. Ум. друк. арк. 5,46. Ул.-выд. арк. 3,87. Зак. 1192. Цана ў мяккай вокладцы 51 кап., у перапл. № 4, 70 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфІі і кніжнага гандлю Мінск, Савецкая, 19.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.